# БЕЛАРУС

Выдае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў ЗША
Published by Byelorussian-American Association, Inc.
33 Norfolk Street
New York 2, N. Y.

PRICE 15 ¢ BYELARUS — WHITERUTHENIAN (BYELORUSSIAN) NEWSPAPER IN THE U.S.A. ЦАНА 15¢

Год VI. № 4(54) 24 Сьнежня 1955 г. NEW YORK, N. Y., U. S. A. December 24, 1955 Vol. VI. № 4(54)


## БОЖАЙ МІЛАСЬЦЮ

### СЬВЯШЧЭННЫ САБОР ЕПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА ЧУЖЫНЕ

Да ўсячэснага Духавенства, прападобнага Манаства й усіх багалюбівых вернікаў нашых на Чужыне й на Бацькаўшчыне прабываючых

## КАЛЯДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ

*„І СЛОВА целам сталася, і пасялілася між нас". (Іо. 1,14).*

УЛЮБЛЁНЫЯ ДЗЕЦІ НАШЫЯ!

Такімі натхненнымі й цудоўнымі словамі вяшчае нам сьв. Апостал Іоан вялікую радасьць: Хрыстос НАРАДЗІЎСЯ! Хрыстос, прадвечнае „Слова целам сталася, і пасялілася між нас, і бачылі мы славу Яго, як Адзінароднага ад Айца, поўнае ласкі й праўды". А сталася гэта не прыпадкова. Аб гэтым апавясьціў Бог Айцец ужо згрэшаным Адаму й Еве ў Раі: „Насеньне Жанчыны скрышыць галаву шатана" (І Майс. 3,15).

Госпад Бог стварыў Адама й Еву для вечнага й шчасьлівага жыцьця ў Раі. Але зьмей-шатан спакусіў іх, яны цяжка зграшылі й гэтым страцілі Рай і жыцьцё вечнае. Аднак, Госпад Міласэрны, дзеля бясконцае любові Свае, зьмілаваўся над імі й абяцаў паслаць ім Мэсію-Спасіцеля, Каторы Сваім послухам аж да сьмерці на Крыжы верне людзям страчанае жыцьцё вечнае ў Раі.

Цяжкое было жыцьцё людзей пасьля страты Раю. Аднак, надзея на Мэсію-Спасіцеля іх ад роспачы ратавала, узмацняла, суцяшала. А калі яна слабела, а часам і зусім зьнікала, Госпад Бог прыпамінаў ім аб ёй праз Сваіх Прарокаў, якія, натхнёныя Духам Сьвятым, гаварылі людзям: Прыйдзе Мэсія, народзіцца ад Прачыстае Дзевы ў Віфлееме, злучыць ізноў людзей з Богам!

І вось, калі споўнілася поўня часу, у ціхую Сьвятую Ноч сталася цуд: зазьзяла Зорка над Віфлеемам! Зорка Ласкі, Міласэрдзя й Любові Божае. У вялікім сьвятле зьявіўся Анел на небе й апавясьціў Віфлеемскім пастыром аб вялікай радасьці ўсім людзям: „Цяпер нарадзіўся вам у месьце Давідавым Спасіцель, Каторы ёсьць Хрыстос Госпад" (Лк. 2,11).

Хрыстос, Спасіцель наш, НАРАДЗІЎСЯ! Нарадзіўся ў ясьлях у стайні, бо „ня было Яму месца ў гасподзе" (Лк. 2,7). Дзіва дзіўнае: Валадар Неба й зямлі, Творца ўсяго сьвету, нарадзіўся як найбяднейшы чалавек! Але гэта толькі для нас дзіва, бо Народжаны Хрыстос, паводля Провіду Божага, меў узяць на Сябе ўсе беды, немачы й грахі нашыя. Таму Ён, як Чалавек, ужо ад Нараджэньня мусіў быць сярод гэтае біды, немачаў, выгнаньня, цярпеньняў, уключна з пакутамі на Крыжы. Ісус Хрыстос узяў беды нашыя на Сябе, каб нас зрабіць шчасьлівымі. Ён зыйшоў зь Неба, прыняў нашае цела, каб ачысьціць, асьвяціць нас, зрабіць нас ізноў дзяцьмі Божымі. Ён панізіў Сябе, каб так узьняць нас на ўзровень анелаў, на вышыні Нябесныя! Ён стаў Чалавекам, каб перамагчы ўсе слабасьці нашыя й паказаць нам, што й мы можам карыстацца сілаю Яго, калі толькі пойдзем за Ім, за словам Яго: „Калі будзеце мець Веру, дык зробіце тое, што Я раблю, і нічога ня будзе немагчымага для вас" (Мц. 17,20). Урэшце, Сваім Нараджэньнем у стайні, Спасіцель наш асьвяціў усю прыроду, усякі твор.

Таму ў цінную Сьвятую Ноч Нараджэньня Дзіцятка ўся прырода заціхае, зачараваная зьяўленьнем Тварца свайго ў людзкім целе, усякі твор пяе хвалу Яму. Тым болей людзі, зачараваныя сьвятлом Зоркі Віфлеемскае, абнаўляюцца, прасьвятляюцца, выбачаюць сабе крыўды розныя, бо-ж гэтае сьвятло Любові Божае ня ведае ніякіх перашкодаў, ніякіх межаў, абыймае сабою ўвесь сьвет: усіх людзей, усякі твор. Таму таксама нашы пабожныя прашчуры з усёабыймаючаю любовяю ў сэрцах сваіх несьлі сена з стала ў стайню й давалі яго жывёле, бо ў гэтую часіну ўсё было Божае!

Так дабрадатныя праменьні Зоркі Віфлеемскае, як сьвятло Ласкі й Любові Божае, натхняюць сабою ўвесь сьвет, усюды нясуць радасную вестку аб Нараджэньні Богачалавека на зямлі, весьцяць Праўду, Супакой-Мір усім людзям добрае волі. І як даўней людзі добрае волі цешыліся надзеяй на Прыход Спасіцеля, так і цяпер з Нараджэньнем Яго цешацца надзеяй, што неўзабаве запануе ўсюды на сьвеце любоў, брацтва й мір, як Ён і сказаў: „Прыдзеце да Мяне ўсе стружданыя й абцяжаныя, і Я супакою вас" (Мц. 11,28). Таму



ўсе людзі добрае волі ў цінную Сьвятую Ноч вітаюць Народжанае Дзіцятка, як сьвятло й мір сьвету, фіміамам свае любові й надзеі, выяўляючы гэта сьвятлом запаленых сьвечак. І асабліва ў гэтую Сьвятую Ноч душы іх цешацца, бо адчуваюць прысутнасьць Творцы сьвету й міру-супакою сярод іх ды цьвёрда вераць, што неўзабаве прыйдзе час, і „Бог міру скрышыць шатана пад нагамі нашымі" (Рым. 16,20).

Але радасьць нашая заўсёды большая, калі мы дзелімся ёю з нашымі блізкімі. Таму ў гэты Сьвяты Вечар кажны сьпяшаецца дамоў, да свае сямейкі, да стала з пахкім сенам, каб перажыць радасьць анелаў і Маці Божае перад ясьлямі Дзіцятка. Нажаль, многія з вас будуць мець пустыя месцы пры сваім стале, бо там ня будзе таты, мамы, або сына, дачкі. І не адна сьляза скоціцца з абліччаў вашых, але няхай яна злучаецца з гарачаю Вераю й Любовяю да Народжанага Хрыста, Бога нашага, Каторы суцешыць вас, пашле Ласку Сваю вам і тым, каго няма з вамі. Асабліва-ж шчыра й горача памолімся ў гэты Сьвяты Вечар за тых нашых братоў і сёстраў, што церпяць і пакутуюць удома дый на катаргах і высылках сучаснага Ірада. Спасіцель наш выслухае малітвы нашы, і паможа нам неўзабаве славіць Яго на нашай народжанай, Вольнай і слаўнай Бацькаўшчыне-Беларусі.

З гэтаю цьвёрдаю вераю й надзеяй на мір Божы ў сьвеце, з палымянай лябовяй да Нованароджанага Хрыста, Бога нашага, вітаем вас, усячэсныя Айцы й улюблёныя Браты й Сёстры зь вялікім і радасным Сьвятам РАСТВА ХРЫСТОВАГА і з надыходзячым НОВЫМ ГОДАМ. Няхай сьвятло Зоркі Віфлеемскае ўзмацніць і прасьвятліць вас дый злучыць вас у вадну, Богу мілую сямейку, і радасьць вашая будзе поўная, бо Ягоная, Хрыстовая (Іо. 15,11).

Пасылаем вам нашае Архіпастырскае Багаславеньне. Стала ўзмацняйце Веру вашую ў Хрыста, Бога нашага, пазнавайце Праўду Яго, і „яна зробіць вас вольнымі" (Іо. 8,32), ды шчасьлівымі й радаснымі тут на зямлі й там на Небе.

Ласка й Мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Шчадроты Сьвятога Духа будуць з усімі вамі. АМІН.

† СЬМІРЭННЫ АРХІЕПІСКАП СЕРГІЙ
Галава Сьвяшчэннага Сабору Епіскапаў БАПЦ

† СЬМІРЭННЫ АРХІЕПІСКАП ВАСІЛЬ
Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Епіскапаў БАПЦ

Дана Лета Божага 1955, месяца сьнежня
Аўстралія-Амэрыка.

**З НАРАДЖЭНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ І З НАДЫХОДЗЯЧЫМ НОВЫМ ГОДАМ ВІНШУЕМ УСІХ СУРОДЗІЧАЎ**

Галоўная Управа **БАЗА** Рэдакцыйная Калегія **БЕЛАРУСА**

## У СЬВЯТЫ ВЕЧАР

Вякамі з году ў год дзень Хрыстовага Нараджэньня ўздымае ў душы чалавека вартасьнейшыя пачуцьці, стварае радасны настрой, зварачае й набліжае чалавека да Бога. Гэтае вечнае адраджэньне Бога ў душы чалавека прыносіць нам тую радасьць, зь якой мы спатыкаем гэтае Вялікае Сьвята. Хрыстова Нараджэньне пакрыла сабою нашае старасьвецкае сьвята „Каляды" — сьвята перамогі сонца над сьцюжай, сьвятла над цьмой, радасьці над панурасьцяй — што зыйшлося ў часе з Нараджэньнем Хрыстовым.

У гэты час людзі прывітваюцца найлепшымі пажаданьнямі з шчырымі думкамі й сэрцам.

Гэтая сьветласьць і радасьць тым балей выклікае ў нас і горкі жаль, калі толькі мы думкай зьвернемся да нашых родных на далёкай цяпер нам Бацькаўшчыне. Колькі-б радасьці нам прыспорыла адно прывітаньне сваіх родных і знаёмых, калі-б мы маглі яго паслаць ды былі пэўныя, што яно апрача радасьці не прынясе ім бяды. Толькі ў сваім сэрцы мы можам вінshаваць усіх тых, што будучы ўдома, знаходзяцца нявольнікамі, прыгоннымі, церпяць голад, холад, галечу; усіх тых, што сіламоц разагнаныя па вялікіх прасторах Сібіры ды азіяцкіх стэпаў, выконваючы загад рабаўладальнікаў; усіх тых, што высланыя ў катаржальныя лягеры, што вінны перад тыранамі толькі за сваю сьвятлейшую душу; усіх тых, што ў няволі, ў голадзе, холадзе, у хваробах дажываюць апошнія дні свайго жыцьця. Пэўне й для іх у гэты Сьвяты Вечар завітае сьветлы промень радасьці. Як бы радыя мы былі прывітаць іх з гэтай сьветласьцяй! Цёмныя сілы перашкаджаюць нам зрабіць гэты ўчынак. Але як нараджэньне Хрыста перамагло цемень, зло й няволю, так вечнае адраджэньне ў чалавеку Духа Праўды, Дабра і Сьвятла ўратуе яго ад няволі аблуды, зла й зьдзеку ды прывядзе да сьвятлейшае будучыні. У гэтай веры віншуем рассыпаных па ўсім сьвеце суродзічаў. У гэтай веры пасылаем мы сардэчнае прывітаньне сваім братом у няволі: віншуем Вас з Нараджэньнем Хрыстовым! Ня трацьма веры й надзеі на перамогу праўды над ілжою, волі над няволяю. Будзьма цьвёрдымі ў веры на адраджэньне да вольнага жыцьця й нашае шматпакутнае Бацькаўшчыны.

# 1955 год у Міжнародным Жыцьці

*Заходні сьвет і Саветы.* Сёлетні 1955 год адзначыўся натужнымі спробамі Заходняга сьвету разьвязаць спрэчныя пытаньні з Саветамі мірным парадкам. Спрычыніўся да гэтага, ў ладнай меры, кінуты савецкімі дыктатарамі зманны кліч „суіснаваньня". Усе ўступкі Саветам робленыя ў Азіі (у Карэі, на Фармозе, у Індакітаі), ды пасыўнае стаўленьне ў справе паняволеньня чырвонай дыктатурай шмат якіх народаў Эўропы было вынікам гэтых спробаў і надзеяў на мірнае „суіснаваньне". Тымчасам, не азіраючыся на запраўднае ўладжаньне мірнага жыцьця, Саветы ўсьцяж праводзілі й праводзяць агрэсыўныя пляны і, з дапамогай ілжывае прапаганды, — свае ўплывы. Усе канфэрэнцыі й перамовы Саветы выкарыстоўваюць вылучна для змяну заходніх саюзьнікаў, стараючыся пасеяць між іх нялады, а маючы адну мэту — нахабнае паняволеньне вольных яшчэ народаў. Яскравым довадам гэтага служыць Жэнэўская канфэрэнцыя, сьпярша (у ліпені сёлета) чаловых мужоў вялікіх гаспадарстваў, а потым, у кастрычніку, міністраў замежных справаў гэтых гаспадарстваў (ЗША, Ангельшчыны, Францыі й Саветаў). Так званы мірны „дух Жэнэвы" — на першай канфэрэнцыі — разьвеяўся, як дым на канфэрэнцыі міністраў, калі былі пастаўленыя справы рэальна дзеля мірнага ўладжаньня. Ці-ж маглі пагадзіцца Саветы на вольныя выбары па ўсёй Нямеччыне, або на вольную вымену ідэямі й зьняцьця жорсткай цэнзуры, ці на запраўдную вымену ваеннымі інфармацыямі? Ці можа паказаць напасьнік начыньне, якое ён нарыхтаваў на сваю ахвяру? Толькі наіўныя й тыя, што ня ведаюць прыроды бальшавізму, могуць спадзявацца на устанаўленьне запраўднага міру між Саветамі й Захадам.

Нажаль, савецкія ўплывы пашыраюцца ў Азіі ды перакідаюцца ў Афрыку. Магчыма, што да гэтага спрычынілася ў найбольшай меры заходняя ўступлівасьць, якую ацэньваюць некаторыя, як слабасьць. Цяпер савецкія правадыры заходзіліся каля Індыі ды сунуць свае рукі ў Афрыку да Арабскіх народаў, якія змагаюцца за нацыянальную незалежнасьць.

*Дзесяцігодзьдзе Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў.* Споўнілася дзесяць год арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, пакліканай разьвязваць мірным парадкам спрэчныя міжнародныя справы й міжгаспадарстваўныя канфікты. Паўстала пытаньне аб зьмене статуту (хартыі) гэтае арганізацыі: у сэнсе ўпарадкаваньня сяброўства, скасаваньне права „вэто" паасобных гаспадарстваў, якім карысталіся блізу вылучна Саветы, прыняцьця больш эфэктыўных мерапрыемстваў у спыненьні гону й кантролі зброеньняў. Тымчасам Саветы, стаўшы сябрам гэтае арганізацыі, ўсьцяж дзеюць на падбой яе. Апошнімі часамі савецкая палітыка скіраваная выразна на сэпаратныя дачыненьні зь іншымі гаспадарствамі. У выніку гэтага з ініцыятывы Саветаў зробленая мірная ўмова з Аўстрыяй, актывізуюцца савецкія ўдаваньні да Нямеччыны, Індыі, Арабскіх гаспадарстваў.

Францыя пагражала пакінуць З.Н. з прычыны разгляду й прыняцьця рэзалюцыяў у справе каляніяльных францускіх краёў (Марока, Альжыр); у знак пратэсту француская дэлегацыя выйшла была з Агульнае Рады З. Н. Тое самае зрабіла Паўдзённая Афрыка з прычыны прыняцьця да разгляду сэгрэгацыйнае палітыкі Паўдзённа-Афрыканскага Ураду (У паўдзённай Афрыцы ёсьць каля 8 міліёнаў неграў ды больш 2½ міліёны белых). Абодва гаспадарствы ўважаюць, што З. Н. уваходзіць у іхныя нутраныя справы. Гэткім парадкам арганізацыя З. Н. траціць аўтарытэт, заміж уздымаць яго. Аніяк ня ўзрос аўтарытэт ЗН з прычыны прыняцьця новых 16 сяброў-нацыяў. Гэтае прыняцьцё выявіла толькі ясьней увесь той шантаж, якім паслугоўваюцца савецкія прадстаўнікі ў гэтай арганізацыі.

*Нацыянальнае самастанаўленьне народаў.* Змаганьне за нацыянальную й гаспадарчую незалежнасьць паняволеных народаў узрастае да стану вызначальнае справы. На парадак дня ставяцца пытаньні незалежнасьці Арабскіх народаў у Афрыцы. Трэба спадзявацца, што за прыкладам Ангельшчыны пойдзе Францыя ды ўнармуе палітычна-нацыянальныя патрабаваньні сваіх былых каленіяльных народаў. Ня ставіцца толькі на парадак дня нацыянальнае вызваленьне народаў спад савецкае няволі. Савецкая ўлада зырка сочыць ды здушвае кажную народную патугу да самастойнага жыцьця, ня спыняючыся перад зьнішчэньнем ці высяленьнем цэлага народу зь ягонае радзімае зямлі.

Дзіўна, што Заходнія гаспадарствы, а найперш Амэрыка, як-бы не адчуваюць слушнасьці й патрэбы прызнаньня нацыянальных правоў паняволеным Расеяй народам. Сваю антысавецкую прапаганду Амэрыка паставіла на „непрадрашэнскія" пазыцыі. І ня сходзіць з гэтых пазыцыяў, не зважаючы на паказальныя факты уцёкаў гэтых „непрадрашэнцаў", „антысавецкіх прапагандыстых", назад у Саветы, да сваіх. Праўда, штораз больш амэрыканскіх палітыкаў выказваецца аб гэтай справе рэальна, ставячы пытаньне вызваленьня паняволеных расейскім бальшавізмам народаў ува ўсёй паўнині. Аднак жа прапаганда расейскіх імпэрыялістых на эміграцыі мае яшчэ паслух. А прапаганда гэтая, бязумоўна, дапамагае Саветам трымаць у цэласьці Вялікую Расейска-савецкую народную катаргу.

*Справа задзіночаньня Нямеччыны.* Адна з найбольш балючых і дражлівых справаў — гэта справа будучыні Нямеччыны. Нямеччына — вельмі паважная сіла ў міжнародных дачыненьнях. Таму як Захаду, так Саветам залежыць мець Нямеччыну на сваім баку. Усе спробы заходніх саюзьнікаў задзіночыць Нямеччыну (Заходнюю й Усходнюю) дэмакратычным парадкам упіраюцца ў супраціў Саветаў, бо ведама, пры такім стаўленьні справы Саветы страцілі-б Усходнюю Нямеччыну, тым часам як яны намагаюцца здабыць яшчэ й Заходнюю. Вельмі магчыма, што Саветы пачнуць перамовы беспасярэдня з Заходняй Нямеччынай аб задзіночаньні яе з Усходняй. Прыклад ёсьць з Аўстрыяй, якая ўважаецца за незалежную, але Саветы ўсё-ж маюць там свае капцюры. Аднакжа на такі крок Саветы, бадай, ня пойдуць: Нямеччына — то не Аўстрыя, і ў Нямеччыне такая незалежнасьць, што дадзеная Аўстрыі, Саветам будзе небясьпечнай. Нездарма Молатаў ды іншыя савецкія правадыры заяўляюць, што справа задзіночаньня Нямеччыны зацяжная.

*Ізраэль і Арабы.* Небясьпечныя канфлікты ўзьняліся між Ізраэльскім і Арабскімі гаспадарствамі. Арабы ніяк ня хочуць пагадзіцца з фактам выцісьненьня з Палестыны колькісот тысячаў Арабаў, якія дагэтуль ня маюць сталага месцаасяленьня. Ізраэльскі ўрад ні пад якой умовай не згаджаецца адступіць частку тэрыторыі, якой не стае Ізраэлю. Мірнае абладжаньне канфлікту тым цяжэйшае, што Саветы, як заўсёды „падкідаюць агню". Яны прадаюць зброю Арабскім гаспадарствам ды, відаць, не адтаго прадаць і Ізраэлю. Ваенныя завагненьні вонках Саветаў ды іхных сатэлітаў заўсёды падтрымліваюцца Крамлём.

*Культурнае „зблiжэньне" Захаду з савецкім усходам.* Зблiжэньне дэмакратычнага захаду з дыктатарскім ўсходам выглядае, на першы позірк, вельмі камічна. Саветы высылаюць афіцыйныя дэлегацыі, якія маюць поўную волю выбіраць сабе маршрут па заходніх краёх, аднакжа й на волі застаюцца нявольнікамі. Калі адзін савецкі дэлегат, наймя Уласаў, з будаўлянае дэлегацыі, на сваю руку наведаў амэрыканскага інжынера Райэна, дык яго зараз-жа пазбавілі ўсіх ранейшых узнагародаў і ордэнаў. Заходнія-ж наведвальнікі змушаны аглядаць толькі тыя аб'екты. што ім пакажуць савецкія праваджатаі. І яны пачуюць толькі тое, што карыснае Саветам, бо заўсёды будуць мець дачыненьне з пастаўленымі праз савецкіх шпікоў людзьмі. Калі на Жэнэўскай канфэрэнцыі заходнімі саюзьнікамі быў пададзены праект запраўднай, вольнай вымены думкамі ды ідэямі, Молатаў адкінуў яго катэгарыч-

(заканчэньне на 5 б.)

# АМЭРЫКАНСКІ КАМІТЭТ — ПРАТЭКТАРАМ РУСЫФІКАЦЫІ

Хоць за мінулыя ці ня пяць ужо год свайго існаваньня Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму й выказаў некаторую эвалюцыю сваіх палітычных паглядаў, дык аднак-жа, як паказваюць апошнія факты, свайго „першароднага грэху" — сваіх сымпатыяў да расейскага вялікадзяржаўя — ня вызбыўся ён і дагэтуль.

Гэта й не такое дзіва, калі ўсьведамім сабе, што бабкамі пры зьяўленьні на сьвет сучаснага АКВБ былі некалі гэткія закаранелыя расейскія вялікадзяржаўнікі, як Керанскі, аўтар славутага сказу пра тое, што лепш хай і расейскі народ гібее пад ліхім дыктатарам, чымся дапусьціць да вызваленьня народаў расейскай імпэрыі. Дзіва барджэй тое, што гэтага збанкрутаванага палітыка, які гэткім сваім цьверджаньнем прызнаў з цынізмам, што з бальшавізмам ён можа змагацца толькі коштам недапушчэньня да вызваленьня нерасейскіх народаў СССР, Амэрыканскі Камітэт гадамі й вялікімі коштамі бясплодна намагаўся насадзіць на верхавода ня толькі расейскай, але й нерасейскай эміграцыі.

Довадам таго, што міраж вялікай, магутнай расейскай імпэрыі, з расейскім народам у ролі канечнага пана над народамі іншымі, толькі бяз ЦК Кампартыі на Крамлі, усё яшчэ маячыць перад кіраўніцтвам Амэрыканскага Камітэту, — нядаўная забарона ў радыё „Вызваленьне" ў Мюнхене некаторых вельмі важных перадачаў.

Агульна ведама, што бальшавіцкая Масква ад дзесяткоў ужо год вядзе інтэнсыўную русыфікацыю як Беларусі, гэтак і іншых нерасейскіх народаў СССР. Гэта яўна гэнасыднае намаганьне зьнішчыць народы праз асыміляцыю, праз адабраньне ім іхнай мовы. Для гэтае мэты чырвоная Масква ўдасканальніла нязвычайна даўнейшыя прымітыўныя мэтады русыфікацыі нерасейскіх народаў царскага рэжыму. Масква русыфікацыяй намагаецца ўзмоцніць ланцугі свае турмы народаў, а з часам зьліць гэтыя народы й зусім у вадзін расейскі нацыянальны маналіт, каб пасьля, — ужо без свае нацыянальнае Ахілесавае пяты — зь яшчэ большаю сілай ударыць па Захадзе, захапіць далейшыя краі й народы дый, калі толькі дасца, і цэлыя кантынэнты.

Кажнаму, хто палітычна думае, зразумела, што русыфікацыя народаў СССР сяньня — гэта справа істотная й важная ня толькі загроженым ёю народам. Гэта ня нейкі бязмэтны гэнасыдызм, гэта сьведамы акт рыхтаваньня шырэйшае палітычна-мілітарнае выходнае базы для будучай агрэсіі супраць Амэрыкі й іншых вольных краёў сьвету з мэтай разгрому й паняволеньня іх. І вось, не зважаючы на гэта, амэрыканскае кіраўніцтва радыё забараняе перадачы, што дэмаскуюць русыфікатарскую палітыку чырвонае Масквы. Амэрыканскае кіраўніцтва канфіскуе, прыкл., усе тэксты перадачаў, што закранаюць і камэнтуюць факты русыфікацыі Беларусі. Пры гэтым кіраўніцтва такі свой крок матывуе прынцыпам „непрадрашэнства" Амэрыканскага Камітэту ў нацыянальным пытаньні.

Амэрыканскае кіраўніцтва радыё, відаць, недабачвае, што сваім паступаньнем у гэтай справе яно само ані не стаіць на сваім „непрадрашэнсьцьве", а яўна ломіць яго на карысьць маскоўскага вялікадзяржаўя. Сваёю цэнзураю й накіданьнем прымусовага маўчаньня ў гэтай вельмі важнай палітычна й вельмі грознай паняволеным народам нацыянальна справе, кіраўніцтва радыё фактычна памагае „прадрашаць" Маскве. Гэткім крокам выказваецца ня што іншае, як асаблівая рупнасьць пра тое, каб насланы, прыкл. у Беларусь расейскі элемэнт меў даволі бесьперашкоднага часу на свае ўмацаваньне і ўзьвялічэньне, праз асыміляцыю як найбольшай колькасьці Беларусоў, і гэтак як трэба акрыяў, каб у нейкі чародны крытычны для расейскае імпэрыі мамэнт меў даволі сілаў спаралізаваць вызвольныя ймкненьні беларускага народу ды й „прадрашыць" крытычнае палажэньне на карысьць Масквы.

Так вось радыё, што завецца „Вызваленьнем", выступае ў ролі пратэктара русыфікацыі народаў ды й памагатара Масквы ў справе „прадрашаньня" долі паняволеных народаў гэтак, каб некалі па разгроме бальшавізму нерасейскія народы ня мелі ўжо сілы вызваліцца з рабскіх клешчаў Масквы. Гэтак выглядае ў практыцы „непрадрашэнства" Амэрыканскага Камітэту!

Дый ня толькі ў гэтай справе амэрыканскае кіраўніцтва радыё „Вызваленьне" зраджае або поўнае неразуменьне сваіх заданьняў, або поўнае падпарадкаваньне свае дзейнасьці вялікадзяржаўным інтарэсам Масквы (бяз розьніцы — чырвонай ці белай). Калі, прыкладам, прасачыць перадачы апошніх месяцаў — дарма там будзеце шукаць выяўленьня ды дэмаскаваньня спосабаў каляніяльнай эксплёатацыі паняволеных народаў чырвонаю Масквою. Выглядае, што амэрыканскае кіраўніцтва радыё ня бача, ці ня прывязвае аніякой вагі да таго факту, што гэты каляніяльны вызыск паняволеных народаў ня толькі давёў да старэцкае торбы масы жыхарства гэтых народаў, але што ён мае сваю ясную злачынную мэту: намнажэньне эканамічнага й мілітарнага патэнцыялу для плянавага разгрому Амэрыкі й ўсяго Захаду. Міліярды, выцісканыя з жыхарства паняволеных народаў, ідуць ня толькі на высьціланьне мармарам мэтра сталіцы імпэрыі ды падобныя лішнія раскошы, але й на падрыўную бальшавіцкую прапаганду ў краёх вольнага сьвету, на шпіянаж, дый найперш — на далейшую гігантычную разбудову мілітарнай машыны савецкай агрэсіі.

Кароткатрывалая адлега халоднай вайны скончылася. „Дух Жэнэвы" з цырковакрывадушнымі ўсьміханьнямі, як неспадзеўна закрасаваў, гэтак борзда й шчэз. Ізноў пацягнула халодным сіверам добра ведамага духу — духу Масквы. Савецкі кукурузны цар Мікіта Хрушчоў носіцца па краёх Азіі дый бязуважна груба громіць краі Захаду каляніялізмам дый палітыкай пасяганьня на волю народаў Азіі, выхваляючы аднначасна Саветы як край народаў свабодных.

Вось гэтым самым часам амэрыканскае радыё, якое быццам мае служыць справе „вызваленьня", ня можа здабыцца й дагэтуль на сьмеласьць, каб пры кажнай нагодзе перад народамі СССР і вольнага сьвету дэмаскаваць гэтую аблыжную дый крывадушную гульню крывавых дыктатараў чырвонае імпэрыі. Баіцца выяўляць усю праўду й жах савецкай каляніяльнай эксплятацыі, ад клешчаў якое дзесяткамі год гінулі міліёны Беларусаў, Украінцаў, Каўказцаў ды цэлая чарада іншых народаў — рабоў расейскай імпэрыі.

Аб чым гэта ўсё сьветчыць? Гэта канкрэтныя азнакі таго, што й дагэтуль АКВБ усё яшчэ не „прадрашыўся": ці ён за свабоду паняволеных народаў, ці не; ці ён супроць каляніяльнага вызыску іх, ці не; ці ён супроць гэнасыднага русыфікаваньня іх, ці не.Даводзіцца моцна сумлявацца, каб стоячы на базе гэткага запраўды татальнага „непрадрашэнства", радыё „Вызваленьне" магло шмат дапамагчы рэальна вызваленьню народаў, паняволеных чырвонаю Масквою.

*А. Гоман.*

# „МЕНСК СЯГОНЬНЯ"

Пад такім назовам у Нью Ёрку ў 20-х днёх лістапада сёлета йшоў савецкі каляровы прапагандовы кінафільм. Паказ гэты быў папярэджаны другім некаляровым кароткамэтражным фільмам „Беларускія мэлёдыі".

У вабодвух фільмах кіраўнічая роля „старэйшага брата" вызначаецца аж занадта: як з нацыянальнымі матывамі, так і з мовай, абходзяцца бесцырымонна, усюды ўводзячы расейшчыну. У чысьцейшым выглядзе былі выкананыя танец „Бульба" ды песьня „Ой рэчанька". Як-жа няпрыемна разіць вушы вымова: бульбу пякуть, бульбу ядуть! Шырыцца й спэцыфічны від расейшчыны „марфутызацыя" (А маей Марфуты не-ма тута ). Ілюстравалася „савецкае жніва" пад песьню „Поле шырокае" на расейскі матыў. Гэтае „радаснае" савецкае жніва наводзіць горкую нудоту, ведаючы добра з натуры ды з цяперашніх савецкіх газэтаў, як падобныя „плянавыя працы" выконваюцца.

Непацяшальна выглядае й адбудова Менску. Дарэчы сказаць, зусім не паказанае натуральнае жыцьцё места. Усе паказаныя абразкі — выразна штучныя, спэцыяльна накручаныя дзеля прапаганды. Адным зь першых абразкоў паказана „мясо" ў выглядзе напісу на якімсь вагонку ды малако ў выглядзе банак, пэўне, як і вагонак, парожных: бальшавікі заўсёды хваляцца тым, чаго няма, а трэба каб яно было. Усе паказы круціліся каля тых цэнтральных аб'ектаў, што часткава адбудаваныя (Трактарны завод), ды каля старых будынкаў, што ня зьнішчаныя вайной (Дом Ураду, Опэрны тэатр). Мізэрны быў паказ „працэсу адбудовы". Паказалі невялічкі кавалак сьцяны ды 4-5 работнікаў, сярод якіх і жанчыны. Але што найдзіўней, — кладуць цэглу на гліне. Што-ж гэта за „новы савецкі мэтад"? Ці то кінаапэратары далі маху? Размах адбудовы, паводля паказу, жалю годны. Аб тэмпах будаўніцтва сьветчыць і ўрадавы орган БССР газэта „Зьвязда", падаючы, што розныя будаўляныя трэсты сталіцы „ня толькі не забясьпечваюць здачу ва ўстаноўленыя тэрміны аб'ектаў будаўніцтва 1955 году, але нават заканчэньня работ па аб'ектах мінулага году". І яшчэ: „*Пагалі* (падкр. нашае) пракладку тратуараў у Ленінскім і Кагановіцкім раёнах. Толькі ў Варашылаўскім раёне не адчуваецца ніякага зруху ў гэтым напрамку". („Зьвязда", 1 ліпеня 1955 г.) Дзесяць год „выкананьня ды перавыкананьня" пасунулі будаваньне вельмі-ж слаба. Ці-ж можна прыраўнаваць хоць-бы да адбудовы зруйнаванае вайной Нямеччыны, што ўжо стала на ногі. Затое ў фільме пацешылі паказам, як мае выглядаць „Ленінская" вуліца (былая Губэрнатарская) заміж таго, каб паказаць, якая яна цяпер. Тут ужо ілжа супраць самога назову фільму.

У паказе Опэрнага тэатру сьпяваў хор Шырмы. Франтовыя месцы займалі жанчыны. Усе ў ваднолькавым „стылізаваным" убраньні, ні то кашулі, ні то сукенкі; адзеньне сягае аж да зямлі, а вышыўкі на самым сподзе, над ступнямі ног. Постаці бледныя. Стоячы нярухома, яны выглядаюць, як у якой казцы, бы зачараваныя, што чакаюць аднекуль жывучае вады. Характэрна, што кінаапэратары не ўважалі за патрэбнае паказаць самога Шырму тварам, а толькі сьпінаю.

Наагул, пастаці ў фільме, асабліва-ж работнікі, худыя, блядыя. І на першы пагляд, сьмешна выглядае пачостка за даўгім сталом, дзе паказана, як савецкія людзі „культурна" частуюцца півам. Гледзячы на гэта адразу насоўваецца думка: гэтым галодным худым людзём трэба-б палажыць па гамёлцы хлеба ды па кавалку сала, а ня змушаць іх, як тыя Палякі кажуць, „удаваць Грэка" на голы жывот.

Сумна. Менск сягоньня, так як і Менск учора: нацыянальная няволя, бальшавіцкае ашуканства, хвальш, ілжа, а па-за гэтым — галеча,нэндза, руіны . . .

*Р-ны.*

## У СПРАВЕ ГРАМАДЗЯНСТВА

Шмат каму ведама, што пры атрымваньні грамадзянства ЗША кажны павінен падаць сваю былую нацыянальнасьць (former nationality).

Беларусы новай эміграцыі, што ўжо атрымвалі амэрыканскае грамадзянства, спатыкаліся ў гэтым зь некаторымі перашкодамі. Мясцовыя ўрады натуралізацыі згаджаліся ўпісваць Беларусам толькі польскую, расейскую ці іншую нацыянальнасьць, паводля таго, на якую квоту яны прыехалі ў ЗША (дарэчы зацеміць, што на беларускую квоту яны не маглі прыехаць, бо такой ня было) і паводля таго, ў якім гаспадарсьцьве яны (Беларусы) жылі да II-ой сусьветнай вайны, хаця некаторыя нашыя людзі моцна дамагаліся, каб была запісаная ў дакумэньце грамадзянства іхная запраўдная беларуская нацыянальнасьць. Праз гэта Беларусы папаўнялі лікі людзей іншых нацыянальнасьцяў, што атрымвалі амэрыканскае грамадзянства, а сваёй нацыянальнай справе ня ў змозе былі штось рабіць.

Адна зь першых, што зьвярнула належную ўвагу на справу свае нацыянальнасьці пры атрымваньні грамадзянства ЗША, была сп-чна Вера Жызьнеўская, яб чым падавалася ў папярэднім нумары нашае газэты.

Бяручы на ўвагу такое палажэньне, Галоўная Ўправа Беларуска - Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША выслала ў кастрычніку сёлета ліст у Дэпартамэнт Юстыцыі ў Вашынгтоне, у якім былі апісаныя важнейшыя этапы гістарычна-палітычнага палажэньня Беларусі, спосаб іміграваньня Беларусаў у ЗША пасьля II-ой сусьветнай вайны, іхныя жаданьні стацца амэрыканскімі грамадзянамі ды нарэшце тыя няспрыяльныя ўмовы для выяўленьня беларускае нацыянальнасьці пры атрымваньні грамадзянства ЗША. Галоўная Ўправа БАЗА прасіла таксама, каб Дэпартамэнт Юстыцыі акцэптаваў беларускую нацыянальнасьць нашых суродзічаў у працэсе натуралізацыі.

На гэты ліст быў атрыманы адказ, зьмест якога падаём ніжэй:

UNITED STATES DEPARTMENT OF JUSTICE
IMMIGRATION AND NATURALIZATION SERVICE.
REGIONAL OFFICE.
BURLINGTON, VERMONT.

NE 336/332
November 23, 1955.

Michael Tulejko, Chairman
Byelorussian-American Association, Inc.
33 Norfolk Street
New York, New York.

Dear Mr. Tulejko,

Further reference is made to your inquiry of October 28th to our Central Office in Washington, D. C. and to our Assistant Commissioner's reply of the 17th instant.

Your interest is noted in the desire of certain nationals of Byelorussia, presently constituted Byelorussian Soviet Socialist Republic, to have their nationality shown as Byelorussia in connection with their petitions for naturalization. These petitioners, as well as declarants, will not be precluded from alleging in good faith this nationality claim, even though such nationality may not be recognized at the present time.

You mention that Byelorussia, as far as legal status is concerned, is on a parallel with the Ukraine and that our Service recognizes Ukrainian nationality. You are advised that our examiners will henceforth take cognizance of claims made in good faith to Byelorussian nationality.

Very truly yours,
Sol Marks
Acting Deputy Regional
Commissioner.

У перакладзе пабеларуску ліст мае такі зьмест:

ДЭПАРТАМЭНТ ЮСТЫЦЫІ
ЗАДЗІНОЧАНЫХ ШТАТАЎ
ІМІГРАЦЫЙНАЯ Й НАТУРАЛІЗАЦЫЙНАЯ СЛУЖБА
Рэгіянальны Аддзел
Бэрлінгтон, Вэрмонт.

NE 336/332
23 лістапада 1955

Міх. Тулейка, Старшыня
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Інк.
33 Норфольк Стрыт
Нью Ёрк, Нью Ёрк.

Паважаны Сп. Тулейка,

Даём Вам далейшую даведку на Вашае запытаньне ад 28 кастрычніка да нашае цэнтралі ў Вашынгтоне, Д. К. і на адказ нашага Асыстэнта Камісіянера ад 17 г. месяца.

Вы цікавіцеся жаданьнем пэўных ураджэнцаў Беларусі, якая цяпер становіць сабой Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку, падаваць іхную нацыянальнасьць як беларускую ў іхных просьбах аб натуралізацыі. Гэтым просьбітам, як і заяўнікам, ня будзе перашкаджацца ў заяўляньні ў добрай веры прэтэнзіі на гэтую нацыянальнасьць, хаця такая нацыянальнасьць і ня можа прызнавацца цяперашнім часам.

Вы зацемілі, што Беларусь, што да ейнага праўнага стану, становіць паралель з Украінаю ды што нашая Служба прызнае ўкраінскую нацыянальнасьць. Паведамляем Вас, што адгэтуль нашыя экзамінатары будуць прызнаваць прэтэньзіі на беларускую нацыянальнасьць, падаваныя ў добрай веры.

З пашанаю
Соль Маркс
Дзейны Заступнік
Рэгіянальнага Камісіянера.

Як бачым, улады натуралізацыі паставіліся прыхільна да нашых жаданьняў і трэба спадзявацца, што надалей усе Беларусы, пры атрымваньні грамадзянства ЗША, будуць падаваць сваю запраўдную нацыянальнасьць. З гэтага будзе ім задаваленьне ды карысьць беларускай справе.

## Ад Б В Ф

**ФІНАНСАВАЯ СПРАВАЗДАЧА**

**Беларускага Выдавецкага Фонду з 6-га чырвеня 1954 г. да 20-га сьнежня 1955 г.**

Даход:

| | | |
|---|---|---|
| 1. Астача ад Выдавецтва „Беларус . . . . . . . . . | | $ 243.57 |
| 2. Сяброўскія складкі й продажа газэты . . . . . . . | | $ 493.74 |
| Нью Ёрк . . . . | $ 119.59 | |
| Саўт Рывэр — Нью Брансўік . . . . . | $ 86.00 | |
| Кліўленд . . . . | $ 53.50 | |
| Чыкага . . . . . . | $ 48.00 | |
| Стамфорд . . . . . | $ 40.50 | |
| Дэтроіт . . . . . | $ 27.00 | |
| Філядэльфія . . . . | $ 16.00 | |
| Каламбус . . . . | $ 15.00 | |
| Пэорыя . . . . . . | $ 1000 | |
| Спрынгфільд . . . | $ 7.00 | |
| Джэрсы Сіты . . . | $ 5.00 | |
| Зь іншых асяродкаў Амэрыкі . . . | $ 33.50 | |
| З Англіі . . . . . . | $ 32.65 | |
| Усяго . . . | $ 493.74 | |
| 3. Даход ад балю ў Нью Ёрку | | $ 197.30 |
| 4. Успамога ад Сэктару Рады БНР у ЗША . . . . . . | | $ 100.00 |
| 5. Пазыка ад прыватных асобаў | | $ 147.79 |
| Разам . . . | | $ 1182.40 |

Расход:

| | |
|---|---|
| Друк шасьці нумароў газэты, клішы й выдаткі на кальпартаж (апакаваньне й перасылка) . . . . . . . . | $ 1146.90 |
| Сальдо на 20 сьнежня 1955 г. | $ 35.50 |

**Урад БВФ просіць чытачоў уступаць у сябры фонду ды складкамі або ахвярамі ўспамагаць выдавецтва газэты „Беларус". Вашыя ўспамогі спрычыняцца да сталага й часьцейшага выхаду газэты, так як Вашая нядбаласьць можа спрычыніцца да спыненьня газэты.**

**Асабліва зварачаемся да тых, якія ня ёсьць сябрамі БВФ, і не ўрэгулявалі належнасьці за газэту.**

**Ці трэба прыпамінаць, што справа выданьня газэты — справа паважная, а таму ніхто не павінен стаяць у баку. Кажны павінен дбаць пра матарыяльную падтрымку газэты.**

**Урад Фонду**

*В. ЗАХАРКА*

## БЕЛАРУСЬ

### роля й значаньне яе на Усходзе Эўропы

(Працяг. №№ 49, 50, 51, 53)

Мала чаго быў лепшым стан Польшчы і ў паслейшым часе. Калі мы прасочым як сьлед гісторыю Каралеўства Польскага, дык пабачым там шматразовую адмову ад падпарадкаваньня Каралю ня толькі польскае шляхты, але й польскага войска ды блізу бязупыннае змаганьне польскае шляхты, што часта-густа канчалася ўзброеным сутыкам вялікіх аддзелаў.

Паляк Фэлікс Канечны ў сваёй кнізе („Дзее Росіі од найдавнейшых до найновшых часув". Варшава, 1921 г. б. 154) сьветчыць, што навет у канцы XVII стг., г. зн. у тым часе, калі Вяліка-Літоўскае гаспадарства страціла ўжо ранейшую сваю веліч, як у выніку войнаў з Маскоўшчынай, так і з прычыны адарваньня ад яго украінскіх земляў Польшчай, П о л ь ш ч а была пад уплывам Вялікага Княства Літоўскага. Прычынай гэтага, як кажа Канечны, было ўсё тое-ж — *страшэннае разбурэньне Польшчы, калі яна апусьцілася ў цэмру, якая паступова ўзмацнялася аж да паловы XVIII стг.*

Усё вышэйпададзенае выразна кажа пра тое, што няма аніякіх асноваў, каб цьвердзіць, што на Беларусі да падбіцьця яе Расеяй была польская культура, або, што быў надмерны й пераважны ўплыў польскае культуры, які перавышаў-бы натуральны ўзаемаабмен.

Праф. У. Ігнатоўскі („Кароткі Нарыс Гісторыі Беларусі", Вільня, 1921 г.) цьвердзіць, што „Культура пэрыяду Беларуска-Літоўскае дзяржавы мела выразна беларускі характар і тварылася ў беларускай мове. Беларуская мова ў той час была мовай ня толькі ўрадавай, але й мовай навукі й культуры. Хоць шлях для польскай культуры й мовы шырака быў адчынены вуніяй 1386 г., тымчасам польскі ўплыў ня можа пакуль што змагацца зь беларускай культурай. Архівы захоўваюць да цяперашняга часу вялікую колькасьць помнікаў беларускае культуры гэтага пэрыяду. З гэтых помнікаў найбольшую цікавасьць для нас становяць юрыдычныя дакумэнты, якія найбольш ясна сьветчаць пра вышыню беларускае культуры".

Для прыкладу мы тут адзначым з гэтых дакумэнтаў толькі: *1) „Земскія прывілеі Казімера";* гэты Акт, выдадзены ў 1457 г., датычыць жыцьця ўсіх земляў гаспадарства; сваім зьместам ён нагадвае зьмест ангельскага акту 13-га стг., Вялікую Карту Волі, і 2) поўны кодэкс законаў Вялікага Літоўскага Гаспадарства, больш ведамы пад назовам *„Статуту Вялікага Княства Літоўскага"*, або-ж *„Літоўскага Статуту"*.

Літоўскі Статут выдаваўся тры разы: першая рэдакцыя ў 1529 г., другая ў 1566 г. і трэйцяя ў 1588 г.

Гэты Статут, як кажа праф. Лёсік (б. 109) быў першай пісанай канстытуцыяй ува ўсёй Эўропе. Ці мала сьветчыць пра вышэйшасьць беларускае культуры й тое, што друкаваная беларуская Біблія зьявілася ў1517 г., раней за яе выдадзеная была толькі нямецкая, выдрукаваная ў 1445 г. ды чэская Біблія, выдрукаваная ў 1488 г.

„Пра вышыню культуры Беларуска-Літоўскае дзяржавы, як кажа праф. У. Ігнатоўскі (б. 60), сьветчыць вялікае разьвіцьцё беларускага друку. Калі Заходняя Эўропа перажыла малакультурны час сярэдніх стагодзьдзяў і пачала свой новы гістарычны курс, дык першай справай абуджанай культуры была вынаходка друкарскага майстэрства. У 1445 г. Ян Гутэнбэрг ў Нюрэнбэргу выдрукаваў нямецкую Біблію, пасьля чаго, толькі праз 38 гадоў, а менавіта ў 1483 г., зьявілася першая друкаваная беларуская кніга „Цьвятная Трыодзь", а праз 8 гадоў другая друкаваная кніга „Актоіх". Што датычыць Масквы, дык там першая друкаваная расейская кніга, „Апостал", зьявілася толькі ў 1573 г., на 90 год пазьней за першую друкаваную беларускую кнігу. Вельмі рана зьявіліся й беларускія друкарні. Першая беларуская друкарня пачала працаваць у 1483 г., на 22 гады раней за польскую, якая пачала працаваць у 1505 г.".

У Маскве першая друкарня, адчынена толькі ў 1564 г. выхадцам зь Беларусі, дзяком Іванам Фёдаравым, які змушаны быў

# Сьвята Дня Герояў у ЗША

## НЬЮ ЕРК

У Дзень Герояў, 27 лістапада, Беларусы з Нью Ёрку й ваколіцаў сабраліся на ўрачыстую Багаслужбу ў Царкве Сьвятой Тройцы. У гэты дзень беларускае грамадзтва мела гонар вітаць Дастойнага Гасьця Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіепіскапа Багдана — Галаву Украінскае Праваслаўнае Царквы, што пад апекай Канстантынопальскага Патрыярха. Я. В. Архіепіскап Багдан і Я. В. Архіепіскап Васіль адслужылі Сьв. Літургію ў саслужэньні айцоў: Хвёдара Данілюка, Рамана Мельнічэнкі й Івана Фэдыны. Сьпяваў царкоўны хор пад кіраўніцтвам А. Каптуровіча.

У часе Сьв. Літургіі абодва Уладыкі зварачаліся да вернікаў з прачулымі архіпастырскімі словамі.

Па Сьв. Літургіі была адслужана паніхіда за супакой душаў тых, што аддалі жыцьцё за Бацькаўшчыну. Урачыстасьць архіпастырскіх малітваў, іхныя прачулыя казані ды жалобныя сьпевы стварылі глыбокае рэлігійнае пачуцьцё, а калі пры запеве „Вечная памяць" штандаровыя пахілілі вэтэранскі сьцяг, вочы вернікаў былі поўныя сьлёзаў і жалю па палеглых за Бацькаўшчыну змагарох.

З царквы духаўнікі й вернікі удаліся на агульны абед-трызну, на якім Уладыкі ў сваіх прамовах выказалі ўсю глыбіню й сьвятасьць чыну-ахвяру жыцьця за веру й праўду, за волю Бацькаўшчыны.

Угодкавую Акадэмію традыцыйна ладзіла згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў. Старшыня ЗБВ у Нью Ёрку сп. Ул. Курыла, па адыграньні сп-няй З. Зубковіч амэрыканскага гімну, зьвярнуўся да прысутных з гарачым словам, у якім падчыркнуў вагу збройнае сілы ў вызвольным змаганьні народу. Часінаю цішы й жалобным маршам ў выкананьні мужчынскага хору была ўшанаваная памяць палеглых за Бацькаўшчыну.

Часткаю праграмы акадэміі быў рэфэрат на тэму „Змаганьне Беларускага Народу з Маскоўшчынай" або сьцісьлей — „Войны Вялікага Княства Літоўскага з Масквою". Рэфэрат прачытаў Гэн. Ф. Кушаль.

У канцы аўдыторыя слухала канцэрт. У праграму канцэрту увайшлі: солёвыя й дуэтовыя сьпевы нашых маладых сьпявачак пад акампанімэнт сп-ні З. Зубковіч; выкананьне на піяніне музычных твораў сп-няй Зубковіч; харавыя песьні мужчынскага хору пад кіраўніцтвам А. Каптуровіча; дэклямацыя дзяцей і старэйшых.

У канцэрце бралі удзел: сп-ня Маркоўская, сп-чны Галіна Орса, Гая Дарашэвіч і дэкляматары Ірына Войтэнка, Аня Кажура, Б. Данілюк.

З удзячнасьцяй трэба адзначыць працу сп-ні Зубковіч, што памагае нашым маладым сьпявачкам у навуцы сьпеву й кіруе іх выступамі, а таксама й працу маладых сьпявачак, якія ўдасканальваюцца ў нацыянальным сьпеве.

## СПРЫНГФІЛЬД

Спрынгфільдзкі Аддзел БАЗА пастанавіў адзначыць сёлета 35-я ўгодкі Слуцкага Паўстаньня. Аддзел у Спрынгфільдзе невялікі, бо налічвае толькі 15 асобаў, але ў горадзе жыве большая колькасьць Беларусаў як маладое, так і старое нашае эміграцыі.

Сьвяткаваньне гэтых угодкаў было праведзенае 19-га лістапада. Сцэна, дзе адбывалася Акадэмія, была прыгожа ўдэкаравана белчырвонабелым сьцягам пасярэдзіне й пагоняю над ім, а па баках, сымэтрычна, калёнкамі ў нацыянальных колерах, што завяршаліся ярылавым крыжам ды чорнай істужкаю, што злучала калёнкі, з напісам залацістымі літарамі: „Пайшлі паміраць каб жыла Бацькаўшчына". Ужо з 3-яй гадзіны папаўдні пачыналі прыбываць запрошаныя госьці. Гасьцей спатыкаў Старшыня Аддзелу сп. Русак; насустрач ім адразу ліліся чароўныя гукі нашых песьняў, што перадаваліся праз патэфон з награных раней кружэлак. Прыйшлі й прадстаўнікі суседніх нам народаў: Украінцў, Летувісаў, Казакоў. Але больш за палову залі складалі нашыя старыя эміграпты, з чаго мы вельмі цешыліся. На адмысловыя запросіны прыбылі й госьці зь Нью-Ёркаўскага Аддзелу з маладымі мастацкімі сіламі, што памаглі зладзіць і выканаць канцэртную праграму. Урачыстасьць была адчыненая амэрыканскім нацыянальным гімнам, выкананым на піяніне сп-яй Зубковіч. Акадэмію адчыніў сп. Русак. Ён прывітаў прысутнага сьвятара мясцовай праваслаўнай царквы а. Васіля й гасьцей ды запрасіў усіх ушанаваць памяць палеглых за Бацькаўшчыну часінай цішы. Пасьля гэтага хор мясцовага Аддзелу БАЗА пад кіраўніцтвам праф. П. Дрэйды выканаў жалобную песьню „Сьпі пад курганам". З прывітальным словам выступаў Старшыня Галоўнае Управы БАЗА сп. М. Тулейка.

Зьмястоўны рэфэрат, прысьвячаны 35-ым угодкам Слуцкага паўстаньня, прачытаў сп. Кендыш.

У канцэртнай частцы нашыя маладыя сьпявачкі пад акампанімэнт спадарыні Зубковіч цешылі публіку сваім прыгожым сьпевам.

Галіна Орса на пачатку выканала „Аве Марыя", а потым беларускія народныя песьні „Палыночак" і „Лета". Гая Дарашэвіч прасьпявала арыю з опэры „Алеся", Цікоцкага, арыю з опэры „Фігаро" ды песьню „Дарога", музычнага апрацаваньня сп. Зубковіч на словы Я. Коласа. З прыемнасьцяй былі слуханыя музычныя выкананьні на піяніне спадарыні Зубковіч: прэлюдыя з Міхайлоўскага й „Фінал" зь беларускае сюіты Карповіча. Дуэтам Галіна Орса і Гая Дарашэвіч выканалі песьні „Слуцкія ткачыхі" і „Я іду дарогаю". Воплескамі была спатканая дэклямацыя Ляляй Скварнавічыус вершу Л. Геніюш „Крывічы". Галіна Орса дасканальна прадэклямавала паэму М. Кавыля „Пад небам Случчыны каханай".

Харавою песьняю „Люблю наш край" ды беларускім нацыянальным гімнам скончылася Акадэмія.

Спрынгфільдаўцы пражылі вельмі прыемную часіну. Успамін слуцкага геройчнага чыну ды родная песьня ў дасканальным мастацкім выкананьні перанесла нас на нашую дарагую Бацькаўшчыну.

Аднай зь неспадзевак для нашых артыстых было тое, што ў Спрынгфільдзе ўвесь канцэрт быў запісаны на істужку, і нашыя сьпявачкі пасьля канцэрту пачулі самі сваё выкананьне. Піяністка і спявачкі выехалі да Нью Ёрку, але выкананыя імі творы й песьні засталіся нам, як дарагая памятка, і маем магчымасьць праслухаць канцэрт, калі толькі зажадаем.

**Прысутны**

## КЛІУЛЕНД

У нядзелю 4-га сьнежня Беларусы Кліўленду абходзілі 35-ыя ўгодкі антыбальшавіцкага Слуцкага Паўстаньня. А 12-ай гадз. дня па Сьвятой Літургіі ў мясцовай беларускай царкве а. Ефімі Які-

(заканчэньне на 7 б.)



**На паніхідзе у Царкве Сьвятой Тройцы у Нью Ёрку.**

---

Але што-ж усё-ткі станавіла сабою гэтая канстытуцыя, ці была яна хоць-бы на паперы дэмакратычна-прагрэсыўным імкненьнем, здольным асьвяжыць задушлівую атмасфэру й скасаваць няроўнасьць грамадзкіх станаў і клясаў? Нічога падобнага.

Як кажа М. Гаккебуш (б. 360-361) „Канстытуцыя складалася з адзінаццацёх артыкулаў. Першы датычыў да рэлігіі, тры наступныя вызнавалі праўны стан шляхты, мяшчанства й сялянства, рэшта вызначалі ўрадавыя ўлады: заканадаўную, выканаўную й судовую".

„Пануючай рэлігіяй абвяшчаўся каталіцызм; пераход зь яго ў іншае веравызнаньне забараняўся пад пагрозай перасьледу за адступніцтва ад веры, кара за якое мела быць вызначанай ў крымінальным кодэксе".

Арт. II. „Шляхта захоўвала за сабою ўсе правы й прывілеі атрыманыя ёю ў ранейшых часох".

Арт. III. „Мяшчане атрымвалі гарантыю правоў, дадзеных ім паводля закону 18 красавіка 1791 г., г. зн. набыцьцё зямельнага собства, доступ да ўсіх духоўных пасадаў, грамадзянскіх чыноў і вайсковых рангаў". Як мы бачым, і закон 18 красавіка 1791 г. выдадзены пасьля першага падзелу.

Арт. IV. „Сяляне былі абвешчаныя пад аховаю закону й гаспадарства, але толькі ў вабсягу ўмовы іх із панамі. Усе ўмовы, укладзеныя між абшарнікамі й сялянамі павінны былі мець ад гэтага часу абавязкавую моц для абодвух бакоў".

„Канстытуцыя не кранала ні істоты, ні колькасьці павіннасьцяў, што ляжалі датуль на сялянах, не давала сялянам асабовай свабоды. Будучыню сялянаў яна ўзалежняла ад добрай волі абшарнікаў".

„Уся польская гісторыя, — як кажа праф. Кастамараў, — мае тую, свойскую ёй адмену, што ў ёй ад пачатку да канца пануе якісь дух самаразбурэньня."

Калі мы прасочым гісторыю беларуска-польскіх дачыненьняў на працягу даўгіх стагодзьдзяў, дык мы нідзе ня знойдзем ніводнае добрае справы з польскага боку. Затое колькі было агідзтва, чыненага калі самастойна, а калі разам із Масквою, навет тады, калі Каралеўства Польскае было ў саюзе зь В. Літоўскім Гаспадарствам.

Да 1386 г., г. зн. да жанімства вялікага князя Літоўскага Ягайлы-Якава із польскай каралевай Ядзьвігай і абраньня Ягайлы за польскага караля, дачыненьні паміж абодвума гаспадарствамі былі досьць варожыя. Узаемныя ўзброеныя напады аднаго гаспадарства на тэрыторыю другога былі звычайнай зьявай. Асабліва вялікага памеру набралі гэтыя сутычкі ў часе ад 1333 да 1370 г., г. зн. у часох караляваньня польскага караля Казімера, зяця вялікага князя Гедыміна, калі Польшча ў вайне за Валынь была канчальна пераможаная.

Нарэшце, пагроза абодвум гаспадарствам з боку нямецкіх крыжакоў Тэўтонскага ордэну змусіла іх ня толькі спыніць далейшае змаганьне, але й укласьці міжсобку саюз, укаранаваны, як ведама, абраньнем вялікага князя літоўскага за караля польскага.

Ад таго часу на плечы В. Княства Літоўскага лягла вялізманая адказнасьць: яно цяпер змушанае было бараніць ня толькі сябе, але й свайго слабога саюзьніка — Каралеўства Польскае.

Польшча ў гэтым часе, як кажа Улад. Грабенскі (б. 69), дайшла да канчальнага заняпаду. Нутраныя звады, што набылі хранічнага характару ў часе двохгадовага бескаралеўства (1382-1384 г.) і двохгадовага караляваньня маладой каралевы Ядзьвігі (1384-1386), зусім зьнясілілі Польшчу й паставілі яе пад вонкавую небясьпеку з боку Чэхаў, Вугорцаў, Гэрцагства Брандэнбурскага й Крыжакоў.

Беларусь, у літаральным сэньсе слова, выратавала Польшчу ад пагібелі. Польшча-ж заўсёды толькі й пільнавала таго мамэнту, калі-б можна было накінуцца на Літву-Беларусь і пажывіцца на чужы конт. Польская шляхта няздольная была дадумацца да таго, што пасьля гібелі Беларускага гаспадарства прыйдзе чарод гібелі Каралеўства Польскага.

Найлепшы ўзор дачыненьня Польшчы да Беларусі — Рыская ўмова 1921 г., гэтая ганебная вынахадка Масквы й Варшавы, супраць Беларускае Народнае Рэспублікі.

(працяг будзе)

# У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва

### АДДЗЕЛ БІНіМ

У Нямеччыне, ў Мюнхене, заснаваны Аддзел БІНіМ. На зборцы 4-га кастрычніка абрана Управа Аддзелу ў складзе: Др. С. Станкевіч — Старшыня, сп. сп. С. Кабыш і А. Маргові — сябры Управы. Абмеркаваны плян дзейнасьці на бліжэйшы час.

### УСПАМІНЫ АБ УСЕБЕЛАРУСКІМ КАНГРЭСЕ

19 лістапада сёлета адбылася зборка БІНіМ прысьвячаная ўспамінам Усебеларускага Кангрэсу.

Некаторыя ўдзельнікі Кангрэсу падалі цікавыя й няведамыя дасюль дэталі пра абставіны скліканьня, прабегу й разгону яго бальшавікамі.

### МОУНАЯ ЗБОРКА ІНСТЫТУТУ.

17 сьнежня на зборці БІНіМ-у былі разгледжаныя некаторыя словы, ведамыя яшчэ старой нашай літаратурнай мове (з слоўнікаў Зізанія, П. Бэрынды, В. Ластоўскага й інш.), часткава ўжываныя, а часткава незаслужана забытыя сяньня. Апрача таго, было падана колькі цікавых словаў з народнае мовы ды прадыскутаванае пытаньне правапісу й перакладу некаторых чужамоўных назоваў, як New York і United States of America.

Больш прыхільнасьці выклікала напісаньне „Ню-Ёрк" і скарочаны назоў „ЗША".

### МІЦЬКЕВІЧ І БЕЛАРУСКАЯ ПЛЫНЬ ПОЛЬСКАЕ ЛІТАРАТУРЫ

На гэтую тэму рэфэрат у БІНІМ у Нью Ёрку 3 сьнежаня 1955 г. меў С. Брага. На пачатку рэфэрату былі адцемленыя беларускія фалькльорныя, моўныя, сюжэтныя й краявідныя элемэнты ў творчасьці Адама Міцькевіча дый падчыркнутая Міцькевічава пазыцыя як найбольшага прадстаўніка групы польскіх пісьменьнікаў „беларускае школы". Беларуская плынь польскае літаратуры, якую тварылі пісьменьнікі беларускага паходжаньня, мае шмат сваіх выдатных прадстаўнікоў праз усе поры польскае літаратуры пачынаючы ад канца XVIII ст. Ад псэўдаклясыцызму, праз раманызм, пазытывізм, нэарамантызм, літаратуру міжваенную й апошнюю паваенную, маем вялікую чараду выдатных прадстаўнікоў польскае літаратуры беларускага паходжаньня, у творчасьці якіх ці мала беларускага элемэнту.

Пісьменьнікі беларускага паходжаньня далі нязвычайна вялікі ўклад у польскую літаратуру, довадам чаго імёны Міцькевіча, Сыракомлі, Арэшчыхі. Вось гэтая нясупынная праз стагодзьдзі беларуская плынь польскае літаратуры прыходзіць да свае канцовае, замыкальнае пары толькі цяпер з гэрмэтычным разьмежаваньнем беларускіх земляў ад польскіх. Сучаснае пакаленьне польскіх пісьменьнікаў беларускага паходжаньня трэба ўважаць апошнімі, выміраючымі прадстаўнікамі беларускае плыні ў польскай літаратуры.

Рэфэрат быў ілюстраваны колькімі прыкладамі вершаў аб Беларусі сучасных польскіх паэтаў беларускага паходжаньня. Пасьля рэфэрату сп. А. Адамовіч у кароткіх словах адцеміў характар перакладаў твораў Міцькевіча ў беларускую мову: Дунін-Марцінкевіча, Ельскага, Купалы, Арсеньневай, Салаўя. Прыклады гэтых перакладаў былі адначасна прачытаныя.

### КНІГА ПАЭЗІІ ЯНКІ КУПАЛЫ

Ужо паказаўся з друку апрацаваны сябрамі БІНіМ выбар паэзіі Янкі Купалы СПАДЧЫНА. Кніга выданая Выдавецтвам „Бацькаўшчына" ў Мюнхене, вялікага фармату, балонаў 564, дае выбар галоўнай паэтычнай спадчыны песьняра-прарока беларускага адраджэньня. Кніга зьмяшчае больш за трыста паэтычных твораў паэты а між іх больш за дзесяць паэмаў і тры вялікія драматычныя творы. Апрача тэкстаў, у кнізе зьмешчаны нарыс пра жыцьцё й творчасьць песьняра, бібліяграфія, фатаграфіі ды біяграфічныя зацемкі ў мовах ангельскай, нямецкай, францускай, гішпанскай.

Кніга каштуе: 1. на люксусовай паперы ў цьвёрдай палатнянай вокладцы з залочанымі напісамі й каляроваю абгорткаю мастака М. Наўмовіча — 11 даляраў; 2. на добрай паперы ў цьвёрдай палатнянай вокладцы з залочанымі надпісамі й каляроваю абгорткаю — 9 даляраў; 3. На добрай паперы ў папяровай мяккай вокладцы — 7 даляраў. Кнігу можна выпісваць праз Управу Інстытуту на адрыс:

Whiteruthenian Institute of Arts and Sciences, Inc., 385 Alabama Ave., Brooklyn 7, N. Y.

## У СЭКТАРЫ РАДЫ БНР У ЗША

11 сьнежня сёлета адбыўся сход радных Амэрыканскага Сэктару, які разглядаў два пункты парадку дня: інфармацыя аб працы беларускае сэкцыі радыё „Вызваленьне" й сучасны стан сэктару й Рады БНР у цэласьці.

Сход выслухаў пададзеныя інфармацыі аб працы радыё „Вызваленьне". У справе Рады БНР быу прачытаны ліст Старшыні, Рады інж. М. Абрамчыка ды пададзена інфармацыя аб стане Амэрыканскага Сэктару Рады БНР; ад сэктараў Ангельшчыны, Аўстраліі, Аргентыны ды іншых былі прачытаныя лісты, у якіх стаіць пытаньне неадкладнага скліканьня чароднай сэсіі Рады БНР.

Пастаноўлена: 1) прыняць да ведама зложаныя інфармацыі і 2) выслаць просьбу Старшыні Рады БНР, каб наступная Сэсія была скліканая не пазьней першых дзён сакавіка 1956 г. у Нью Ёрку.

## ГОЛАС АМЭРЫКАНСКАГА РАБОТНІЦТВА

Нядаўна задзіночаныя дзьве вялікія амэрыканскія работніцкія арганізацыі: AFL (Ам. Фэдэрацыя Працы) й CIO (Камітэт Індустрыяльных Арганізацыяў), што ўвайходзяць у Міжнародную Канфэдэрацыю Працы, апублікавалі рэзалюцыі свайго канстытуцыянальнага зьезду ў справе міжнароднай палітыкі. Гэтыя рэзалюцыі, дакладна і ўсебакова апрацаваныя, выказываюць цьвярдую паставу амэрыканскага работніцтва змагацца з усякімі праявамі дыктатураў, — чырвонай, першым чынам, ды розных іншых таталітарных.

*„Аніякі ўрад, які змагаецца з сваім народам, адбіраючы ў яго правы й свабоды й абніжаючы ягоныя жыцьцёвыя дагоднасьці, ці пагаршаючы ягоныя абставіны працы, ня можа паставіцца мірна да чужых народаў і нацыяў ані заслугоўваць на іхны давер"* — гаворыцца аб гэтым.

У рэзаляцыях досыць падрабязна абмяркоўваюцца розныя праявы ўзаемадачыненьняў між народамі й гаспадарствамі ды ўсьцяж падчыркваецца змаганьне з таталітарызмам.

### ВЫЯУ ТОТАЛІТАРНАГА ПСЫХОЗУ У ПАЛЯКОУ

(заканчэньне з 5 б.)

кратычны Захад пойдзе па дарозе падтрыманьня розных забірчых імпэрыялізмаў ды дапаможа Польшчы?

Калі-б заходнія, вольныя яшчэ гаспадарствы ськіваваліся (ад чаго сьцеражы Божа!) на дарогу падтрыманьня розных імпэрыялізмаў, дык зусім няпэўная была-б перамога над бальшавізмам. Гэтая перамога можа зьдзеіцца толькі дарогаю вызваленьня паняволеных народаў да вольнага жыцьця. Гэта наймацнейшая зброя супраць бальшавізму. Памянёная-ж польская „прысяга" — гэта ня выяў гэтае волі, а выяў узбуялай зноў традыцыйнае польскае самаволі, якая заўсёды спрычынялася да большых ці меншых закалотаў, ды й да заняпаду Польшчы.

Але дарма. Цяперака ад польскага імпэрыялізму міжнародная палітыка будзе залежыць у найменшай меры. Трэба мець цьвярдую веру (і на гэта клікаць у дапамогу Бога), што вольны сьвет пойдзе па запраўднай дарозе да волі народаў. А тады й Паляком трэба будзе ўлегчыся ў свае этнаграфічныя межы ды не лятуцець аб захопах, а падбаць адпаведна запоўніць тую „дзірку ў вабаранку", аб якой гаварыў нябожчык Пілсудзкі.

*С. Міхалеўскі*

### ГАДАВЫ БАЛЬ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ У ЗША

11 лютага 1956 г. у галоўнай залі Украінскага Народнага Дому ў Нью Ёрку (140, 2 Эвеню) адбудзецца гадавы баль БАЗА.

Баль ладзяць Галоўная Управа БАЗА з Урадам Беларускага Выдавецкага Фонду.

Прыбытак ад балю прызначаны на Беларускі Выдавецкі Фонд, які аплачвае выдаваньне газэты „Беларус".

Гадавы Баль арганізуецца з добрай аркестрай, буфэтам, лятарэяй, катыльёнам, ды іншымі несьпадзеўкамі. Уступ 1 дал. 50 цэнтаў.

Арганізацыйны Камітэт Балю ветліва запрашае ўсіх на вялікі беларускі карнавальны вечар у Нью Ёрку, спадзяючыся, што баль будзе запраўды вясёлым.

---

Хай кажны Аддзел БАЗА зарганізуе хоць адзін такі вечар на год у карысьць Беларускага Выдавецкага Фонду.

# Сьвята Дня Герояу у ЗША

менка адслужыў паніхіду па слуцкіх паўстанцах і ўсіх іншых беларускіх героях, што загінулі ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі. Сьцягі, вянок і безьліч сьвечак у руках у людзей надавалі паніхідзе нацыянальна-ўрачысты характар. А 4-ай гадз. папаўдні ў Палёнія Голл пачалася Акадэмія. Старшыня Аддзелу БАЗА сп. А. Сацэвіч, адчыняючы Акадэмію, папрасіў усіх устаць, каб часінаю цішы ўшанаваць памяць палеглых, у часе чаго хор адсьпяваў жалобны марш. Рэфэрат аб Слуцкім Паўстаньні прачытаў сп. А. Каханоўскі. У мастацкай частцы Акадэміі выступілі з патрыятычнай праграмай драматычны гурток, хор і мужчынскі ансамбль пад кіраўніцтвам М. Куліковіча. Драматычны гурток паставіў абразок Н. Арсеньневай „Пралёт у будучыню". Хор адсьпяваў „Песьню Каліноўцаў", „Поле", „Бацькаўскае слоўца" і „Ідуць жаўнеры Беларусы"' Ірa Каляда выступіла із солёсьпевамі, выканаўшы дзьве песьні: „Ня плач, навошта сьлёзы" і „Упэўненасьць". Уладзімер Дунец прадэклямаваў верш Я. Купалы „Беларускія сыны". а Галена Радзюк — верш Ул. Дудзіцкага „Няпрэймы жаданьням". Мужчынскі ансамбль прапяяў дзьве жаўнерскія песьні „А ў нядзельку раненька" і „Бывай мой родны кут і зьвяз" ды на заканчэньне — Беларускі нацыянальны гімн.

## ЧЫКАГА

4-га сьнежня ў нядзелю адбылася тут ладжаная Узгодненым Камітэтам Акадэмія з нагоды 35-ых угодкаў важнага збройнага чыну — Слуцкага Паўстаньня. А. Янка Тарасэвіч адслужыў паніхіду, У сваім казаньні ён шчырымі словамі памянуў чэсьць герояў ды ўспамянуў пра тутэйшых Беларусаў і расьцярушаных па ўсім сьвеце. Акадэмію пачаў кароткай прамовай сп. В. Пануцэвіч. Др. М. Мінкевіч прачытаў рэфэрат, прысьвечаны героям Случчаком ды змаганьню Беларускага народу за сваю незалежнасьць.

Мастацкая частка Акадэміі склалася з жаночай дэклямацыі і харавога выкананьня песень, рэлігійнага гімну „Магутны Божа", ды нацыянальнага гімну „Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Акадэмія скончылася прамовай сп-ра М. Дзямідава, пасьля чаго адбылася застольная бяседа.

# З Жыцьця Беларуска - Амэрыканскага Задзіночаньня

**Суродзічы Беларусы!**

**Рэфэрат Сацыяльнай Апекі пры Галоўнай Управе БАЗА горача заклікае ўсіх Беларусаў да складаньня ахвяраў на дапамогу суродзічам у Эўропе.**

**У Галоўную Управу й Рэфэрат Сацыяльнай Апекі БАЗА вельмі часта прыходзяць лісты з просьбамі аб дапамозе.**

**Ня будзьма-ж глухімі на просьбы нашых абяздоленых братоў і дапаможам імператрываць цяжкі час.**

**Грашовыя ахвяры просім перасылаць на адрыс сацыяльнага рэфэрэнта:**

Mrs. Nina Spiconak, 212 Hale St. New Brunswick, N. J.

**Адначасна Сацыяльны Рэфэрат зьвяртаецца з просьбай аб зьбіраньні вопраткі. Вопратку трэба здаваць сп. сп. сацыяльным рэфэрэнтам мясцовых аддзелаў База, калі-ж іх няма, то сп. сп. старшыням аддзелаў. Просім складаць вопратку ў добрым стане, а перадусім чыстаю. Апошняе прыпамінаецца ахвярадаўцам з тэй прычыны, што перасылка ў Эўропу каштуе шмат грошай і дзеля таго высылаць малавартасную вопратку не аплачваецца.**

**Аб усіх Вашых ахвярах Сацыяльны Рэфэрат БАЗА будзе складаць своечасовыя справаздачы ў прэсе.**

**Наперад дзякуем усім ахвярадаўцам.**

**Сацыяльны Рэфэрат**
**Галоўнай Управы БАЗА**

## КАЛЯДНАЯ ДАПАМОГА БЕЛАРУСАМ У ЭЎРОПЕ

Як мінулымі гадамі, гэтак і сёлета, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў ЗША арганізавала калядную дапамогу суродзічам у Эўропе, галоўна ў Нямеччыне. Ува ўсіх аддзелах БАЗА праведзена зьбіраньне ахвяраў з гэткім вынікам:

1. Аддзел у Саўт Рывэр — Нью Брансўік . . . . . . . . $ 130.00
2. Акруга Нью Ёрк (Бруклін $ 49.00; Мангатан $ 39.00; Маспэц $ 11.00) . . . . . $ 99.00
3. Аддзел у Кліўлендзе . . . $ 30.00
4. Аддзел у Стамфордзе . . . $ 25.00
5. Аддзел у Спрынгфільдзе . . $ 21.00
6. Аддзел у Джэрсы Сіты . . . $ 11.00
7. Аддзел у Чакага . . . . . . $ 10.00
8. Ад вернікаў БАПЦ на дапамогу Архіепіскапу Сергію . . $ 33.00
9. Ад сп-ні Г. А. на дапамогу хворай сям'і Семянені у Аўстрыі $ 5.00

Усяго сабрана . . . . $ 364.00

**Выслана:**

1. У БНК-тэт у Нямеччыне праз Аддзел БАЗА ў Саўт Рывэр Нью Брансўік . . . . . . $ 130.00
2. Сям'і Семянені ў Аўстрыі праз сп-ню Г. А. . . . . . $ 5.00
3. Сям'і Міхновіч у Нямеччыне $ 5.00
4. Архіепіскапу Сергію ў Аўстраліі . . . . . . . . $ 40.00
5. Закуплена 100 пачак „CARE" для БНК-ту на распадзел Беларусам у Нямеччыне . . . $ 100.00

Разам выслана й выдана $ 280.00
Астача ў касе Сацыяльнага Рэфэрату БАЗА . . . . . $ 84.00

Аб далейшым падзеле дапамогі будзе паведамлена ў наступнай справаздачы, г. зн. пасьля атрыманьня вестак ад Аддзелаў БАЗА якія яшчэ іх дагэтуль не падалі.

**Ніна Сыпічонак**
**Сац. Рэф. Гал. Управы БАЗА**

## СЯРОД МОЛАДЗІ ў НЬЮ ЁРКУ

### ГАДАВЫ СХОД НЬЮЁРКАЎСКАГА АДДЗЕЛУ ЗБМ У ЗША.

31 кастрычніка сёл. ў „Тоны'с Голл" на Грынпойнце ў Брукліне адбыўся гадавы сход Ньюёркаўскага Аддзелу ЗБМА.

Ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня прывітаў моладзь старшыня Гал. Управы БАЗА сп. М. Тулейка.

Справаздачу зь дзейнасьці аддзелу ЗБМ зрабіў Вінцэнты Паланевіч. Справаздаўны пэрыяд Ньюёркаўскага аддзелу ЗБМА быў запраўды багаты працай і дасягненьнямі. Даволі прыпомніць толькі некаторыя факты зь дзейнасьці аддзелу: 1) арганізацыя Беларускага Спартовага Клюбу пры аддзеле ЗБМА і футбольнай дружыны „Беларусь", 2) наладжаньне сыстэматычных зборак што пятніцы ў памешканьні IВКА, 3) наведаньне Курсу беларусаведы, спэцыяльна арганізаванага для моладзі Ньюёркаўскім аддзелам БАЗА, 4) зарганізаваньне хору моладзі й танцавальнай групы пад кіраўніцтвам сп. А. Валюшкі, 5) удзел моладзі ў розных імпрэзах робленых арганізацыямі старэйшага грамадзтва, 6) арганізаваньне таварыскіх імпрэзаў, дапамога іншым арганізацыям у таварыскіх імпрэзах у Нью Ёрку й іншых беларускіх асяродках, 7) наладжаньне сувязі з арганізацыямі амэрыканскае моладзі й моладзі славянскіх народаў ў Нью Ёрку, 8) выдаваньне аддзелам ЗБМА супольна з БСКлюбам свайго „Бюлетэню Моладзі" два разы на месяц, 9) упамятненьне цікавых момэнтаў з жыцьця Ньюёркаўскай беларускай калёніі й асабліва моладзі каляровымі фільмамі (с. М. Скіндэр) і фатаграфіямі (с. М. Казьлякоўскі), 10) павялічэньне аддзелу новымі й дзейнымі сябрамі.

Дзейнасьць Ньюёркаўскага аддзелу ЗБМА выклікала ўвагу некаторых амэрыканскіх газэтаў. „Greenpoint Star" што тыдня зьмяшчае весткі аб беларускай моладзі.

Пасьля справаздачы й жвавай дыскусіі ўступаючай управе прызнана абсолюторыюм з падзякай.

Новае кіраўніцтва аддзелу ЗБМА ў Нью Ёрку абранае ў гэтакім складзе: Управа: — Міхась Казьлякоўскі — старшыня, В. Станкевіч, М. Тулейка, А. Лысюк і Каця Емельяновіч — сябры управы; Рэв. камісія: Павал Алексы — старшыня, Я. Шапалюк і М. Дэркач — сябры Р. Камісіі.

Дык застаецца пажадаць каб новая Управа аддзелу ЗБМА у Нью Ёрку, захаваўшы дынаміку працы сваіх папярэднікаў, здолела дамагчыся яшчэ лепшых вынікаў.

### ФУТБОЛЬНАЯ ДРУЖЫНА „ПАГОНЯ"

Футбольная дружына „Пагоня" ў Кліўлендзе налічае цяпер 14 сяброў. Кіраўнік яе — Ул. Літвінка, а капітан — В. Лукашевіч. На працягу 4-ох год ад заснаваньня дружына вельмі добра змагаецца ў сваіх гульнях, а гэтым самым вядзе вялікую прапаганду навонкі, рэпрэзэнтуючы добра Беларусаў сярод іншых нацыянальнасьцяў. Цяперашнім часам яна належыць да Інтэрнацыянальнае Футбольнае Лігі ў Кліўлендзе, куды ўваходзіць 8 нацыянальнасьцяў, улучаючы Амэрыканскую. У восеньскім сэзоне сёлета дружына мела 5 гульняў, 4 на пункты і адну сяброўскую, зь якіх чатыры выграла, а адну зрэмізавала, займаючы першае месца. Беларуская калёнія ў Кліўлендзе вельмі задаволеная з добрых удачаў і спадзяецца, што ў восенскім сэзоне налета дружына пойдзе гэтым кірункам ды здабудзе першае месца ў гадавых змаганьнях 1955-56 гг.

### ГАДАВЫ СХОД БЕЛАРУСКАГА СПАРТОВАГА КЛЮБУ

21 жніўня сёл. у „Тоні Гол" на Брукліне адбыўся гадавы Сход Б. С. Клюбу пры ЗБМ у Нью Ёрку.

За старшыню сходу быў абраны Б. Данілюк, а за сакратара В. Станкевіч.

Справаздачу зь дзейнасьці Б. С. Клюбу зрабіў старшыня М. Казьлякоўскі. З справаздачы было відаць, што Б. С. К. за першы год свайго існаваньня належна правёў арганізацыйную працу ды ў некаторых галінах спорту дасягнуў паважных вынікаў.

Футбольная дружына „Беларусь", якая належыць да „Мэтрополітан Лігі" Нью Ёрку, у лігавых спаборніцтвах здабыла 4-ае месца з вынікамі: выграных — 7, зрэмізаваных — 4, праграных — 3. Апрача гэтага „Беларусь" грала 13 сяброўскіх мэчаў з дружынамі зарганізаванымі ў „Мэтрополітан Лігу", з вынікам: выграных — 7, зрэмізаваных — 2, праграных — 4.

Б. С. Клюб мае яшчэ валейбольную й пінг-понгавую дружыны ды робіць захады дзеля арганізацыі іншых галінаў спорту.

Новае Кіраўніцтва Б. С. Клюбу абранае ў наступным складзе.

Урад Б .С. Клюбу: М. Казьлякоўскі, — старшыня, В .Станкевіч — сакратар, Мэры Лысюк — скарбнік.

Сход пацьвердзіў таксама абраныя ўрады паасабных сэкцыяў.

Футбол — Антон Александровіч — мэнаджер, М. Каваленка — трэнэр, М. Ігнат — капітан дружыны „Беларусь". Валейбол — Аўген Лысюк — мэнаджэр, Пінг-понг — Я. Шапалюк — мэнаджэр.

У канцы сходу было прынята колькі важных пастановаў што да арганізацыйнага жыцьця Б. С. Клюбу.

*„НЕ ЗАБЫВАЙЦЕСЯ МОВЫ РОДНАЕ, КАБ НЯ ЎМЕРЛІ".*
*Ф. БАГУШЭВІЧ*

### СПРЫНГФІЛЬД.

11-га верасьня сёлета адбыўся агульны сход сяброў Аддзелу БАЗА ў Спрынгфільдзе, на якім абмяркоўваўся плян працы Аддзелу на ідучы год. У пляне прадбачваецца адчыненьне беларускай школкі для дзяцей, дзе будзе выкладацца родная мова, гісторыя Беларусі й навука Закону Божага. Настаўнікам будзе сп. Янка Чыжык, ён-жа адначасна й культурны рэфэрэнт Аддзелу. Культурны Аддзел пляную прачытаць колькі рэфэратаў на літаратурныя тэмы.

Сёлетнія ўгодкі незалежнасьці Беларусі Спрынгфільдзкі Аддзел адзначыў вялікім артыкулам у ангельскай мове, які быў зьмешчаны 25-га Сакавіка ў найбольшай тутэйшай штодзённай газэце „The Springfield Union".

Аддзел зварачае належную ўвагу на зборкі ахвяр для суродзічаў у Эўропе, а таксама на падтрыманьне нашых нацыянальных арганізацыяў. Годным увагі ўчынак сп-ні Аляксандры Русак, якая дбайна гадавала прыгожы вазон з мэтай ахвяры на царкву. Атрыманыя за яго грошы $10 перасланыя для БАПЦ.

## У СПРАВЕ НАБЫЦЬЦЯ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ДОМУ У НЬЮ ЁРКУ

Камітэт набыцьця Беларускага Народнага Дому й Царквы ў Нью Ёрку значна закатывізаваў сваю працу пасьля лета. Інтэнсыўна зьбіраліся грошы на дом, нарыхтавана латарэя на сустрэчы Новага Году, падшукоўваўся будынак на БНД. 10 сьнежня сёлета Камітэт склікаў агульны сход дзеля абмеркаваньня куплі дому на 10 вуліцы ў Нью Ёрку. Хоць бальшыня на сходзе й выказалася за куплю дому, то аднак паважная частка прысутных настойліва дамагалася шукаць больш адпаведнага будынку.

У сувязі з тым, што рэалізацыя куплі дому зьбліжаецца, Камітэт ветліва заклікае беларускае грамадзтва ў Амэрыцы дапамагчы набыць Беларускі Народны Дом у Нью Ёрку, уносячы свой удзел у Фонд набыцьця дому неадкладна, „бо хто цяперака дапаможа — дапаможа двойчы!"

Грошы просіцца перасылаць на адрыс: Mr. D. Klincevich 1148 Blake Ave Brooklyn 8, N. Y.

Ад 20 верасьня 1955 г. да сяньня заплацілі на Б. Н. Д. наступныя асобы, якім Камітэт складае шчырую падзяку:

45. Анатоль Валюшка, Нью Ёрк 10 дал.
46. МадэстНорык, Грэнд Рэпідс 10 дал.
47. Мікола Тарашкевіч, Нью Ёрк 50 дал.
48. Васіль Юрцэвіч, Нью Ёрк 50 дал.
49. Адам Горбат, Нью Ёрк 30 дал.
50. Іван Лахвіч, Нью Ёрк 5 дал.
51. Васіль Захаркевіч Нью Ёрк 50 дал.
52. Уладзімір Русак Нью Ёрк 50 дал.
53. Францішак Кушаль, Нью Ёрк 50 дал.
54. Г.А., Нью Ёрк 25 дал.
55. Павал Алексы, Нью Ёрк 50 дал.
56. Таня Алексы, Нью Ёрк 50 дал.
57. Яніна Кахановская, Нью Ёрк 50 дал.
58. Язэп Менскі, Нью Ёрк 50 дал.
59. Міхась Рагуля, Нью Ёрк 50 дал.
60. Мікола Кунцэвіч, Нью Ёрк 50 дал.
61. Кастусь Вадэйка, Нью Ёрк 25 дал.
62. Аўген Протас, Стамфорд 50 дал.
63. Іван Муха, Нью Ёрк 50 дал.
64. Ніна Сыпічонак, Нью Брансўік 50 дал.
65. Васіль Стома, Нью Брансўік 30 дал.
66. А. Ш., Нью Ёрк 50 дал.
67. Янка Ніхаёнак, Нью Ёрк 50 дал.
68. Вітаўт Тумаш,Нью Ёрк 50 дал.
69. Кастусь Мерляк, Нью Ёрк 25 дал.

Сума папярэдніх сплатаў 2015 дал.
Разам сплачана дагэтуль 3.065.00 дал.

На агульным сходзе 10 сьнежня 1955 г. ніжэй паданыя асобы задэклярвалі дадатковую суму на Беларускі Народны Дом, улічваючы ўжо раней сплачаныя імі сумы:

1. Аўген Протас 250 дал.
2. Вітаўт Тумаш 250 дал.
3. Уладзімір Машанскі 250 дал.
4. Часлаў Ханяўка 250 дал.
5. Міхась Міцкевіч 250 дал.
6. Міхась Тулейка 250 дал.
7. Васіль Юрцэвіч 250 дал.
8. Аляксандар Орса 250 дал.
9. Даніель Клінцэвіч 250 дал.
10. Мікалай Кунцэвіч 250 дал.
11. Лявон Кулініч 250 дал.
12. Уладзімір Курылла 250 дал.
13. Г. А. 100 дал.

**Спадзяёмся,што за прыкладам вышэй паданых ахвярных Беларусаў пойдуць іншыя, каб супольным высілкам здабыць запраўды рэпрэзэнтацыйны Беларускі Народны Дом у Нью Ёрку.**

Нью Ёрк, сьнежань 1955 г.

**Камітэт набыцьця БНД ў Нью Ёрку.**

**Рэдагуе Рэдакцыйная Калегія**
**Падпіска на год — $ 2.50.**
**Subscription per year — $ 2.50**